## § 1. Мядзельскі раён на карце Рэспублікі Беларусь



*Мядзельскі раён на карце Беларусі*

***1. Геаграфічнае становішча.*** Мядзельскі раён знаходзіцца на паўночным захадзе Беларусі і займае паўночна–заходні выступ Мінскай вобласці. Ён мяжуе з Астравецкім і Смаргонскім раёнамі Гродненскай вобласці (на захадзе), з Пастаўскім (на поўначы) і Докшыцкім (на ўсходзе) раёнамі Віцебскай вобласці, з Вілейскім раёнам Мінскай вобласці (на поўдні). Адлегласць ад раённага цэнтра гарада Мядзел да абласнога цэнтра — сталіцы Беларусі горада Мінска — 129 кіламетраў (2 гадзіны 15 мінут язды). Іншыя буйнейшыя населеныя пункты знаходзяцца параўнальна недалёка: Вільнюс — 124 км, Паставы — 34 км, Вілейка — 47 км, Маладзечна — 68 км, Докшыцы — 61 км, Смаргонь — 77 км, Астравец ––93

км, Гродна — 309 км. Вузкі пас Пастаўскага і Астравецкага раёнаў шырынёй каля васьмі кіламетраў аддзяляе Мядзельшчыну ад суседняй Літоўскай Рэспублікі.

Раён выцягнуты з захаду на ўсход на 75 кіламетраў, з поўначы на поўдзень на 43 кіламетры. Пры агульнай даўжыні мяжы каля 300 кіламетраў мае плошчу 1964,3 км$^2$. Па памерах тэрыторыі Мядзельшчына займае 32 месца сярод 118 раёнаў Беларусі паміж Сенненшчынай і Брагіншчынай. Тым не менш, па велічыні яна большая за некаторыя невялікія краіны свету, такія як, напрыклад, Мальта, Манака, Ліхтэнштэйн, Бахрэйн, Сінгапур, Сан–Марына, Мальдывы, Барбадас. Найбліжэйшыя па плошчы Маўрыкій (1860 км$^2$) і Каморскія астравы (2170 км$^2$).



*Буйнейшыя формы рэльефа Мядзельшчыны*

Самая паўночная кропка раёна знаходзіцца за 2 кіламетры на паўночны ўсход ад вёскі Чарняты ў сутоках рэк Мядзелкі і Аржоўкі. Яе каардынаты 55° 02′ паўночнай шыраты і 26° 52′ усходняй даўгаты.

Самая паўднёвая кропка размяшчаецца недалёка ад Княгініна на адлегласці двух кіламетраў на паўднёвы захад ад вёскі Мацясы. Яна мае каардынаты 54° 38′ паўночнай шыраты і 27° 10′ усходняй даўгаты.

Крайняя заходняя кропка ляжыць за пяць кіламетраў на захад ад Альшэва ў рэчышчы ракі Струна з каардынатамі 54° 57′ паўночнай шыраты і 26° 19′ усходняй даўгаты.

Крайняя ўсходняя кропка знаходзіцца ў лясным

масіве за сем кіламетраў на паўночны ўсход ад Будслава і мае каардынаты 54° 46′ паўночнай шыраты і 27° 38′ усходняй даўгаты.

Адміністрацыйны цэнтр Мядзельскага раёна горад Мядзел вызначаецца каардынатамі 54°52′32″ паўночнай шыраты, 26°56′19″ усходняй даўгаты. Адлегласць па шыраце паміж Мядзелам і Мінскам у градуснай меры складае 36′41″, з прычыны чаго мясцовы час адрозніваецца на 147 секунд. Гэта значыць, што калі ў сталіцы Беларусі адзначаюць поўнач Новага года, то ў раённым цэнтры па мясцовым часе яшчэ 23 гадзіны 57 хвілін 33 секунды.

Амаль на адной шыраце з Мядзелам знаходзяцца такія гарады як Стуббекёбінг, Рудкёбінг, Сённерборг, Тэннер (Данія), Саўт–Шыльдс, Холтуісл, Касл Дуглас, Странрар (Вялікабрытанія), Бертангорт (Ірландыя), Макковік, Шэффервіл, Оксвард–Хаўс, Флін Флон, Атабаска, Сміттэрс (Канада), Кайгані (ЗША, штат Аляска), Смаленск, Калуга, Уфа, Чалябінск, Омск, Новасібірск, Ленінск–Кузнецкі, Тутун (Расія). У Беларусі — Лепель, Акцябарскі, Багушэўск.

Амаль на адным мерыдыяне з Мядзелам размешчаны гарады Хьёлефьёрд (Нарвегія), Інары, Вуотса, Лусуа (Фінляндыя),Ківіылі, Выру (Эстонія), Алуксне, Прэйлі (Латвія), Сасновы, Славута, Шэпетоўка, Красілаў, Хмяльніцкі (Украіна), Белчэшці, Адабешці, Рымніку–Сэрат, Пагаанэле (Румынія), Праўда, Акорш, Дзібіч, Карнабат (Балгарыя), Бурханія, Аліяга (Турцыя), Самас і Калімнас на аднайменных астравах (Грэцыя), Кабала, Лікасі (Дэмакратычная Рэспубліка Конга), Серовэ (Батсвана), Блумфантэйн (Паўднёва–Афрыканская Рэспубліка). У Беларусі — гарады Вілейка, Столін, а таксама даволі многа вёсак, сярод якіх і радзіма Якуба Коласа — Мікалаеўшчына.

Адлегласць Мядзела ад экватара складае 6083 кіла-

метры, ад Грынвіцкага (пачатковага) мерыдыяна — 5495 кіламетраў.

Раён знаходзіцца ў другім гадзінным паясе. Паколькі амаль уся Еўропа ляжыць у першым паясе, то на Мядзельшчыне, напрыклад, часу больш на адну гадзіну, чым у Польшчы.

Тэрыторыя раёна размешчана на заходняй ускраіне Усходне–Еўрапейскай раўніны, займаючы часткова Свянцянскія грады і Нарацка–Вілейскую нізіну ў басейне ракі Віліі.

Фізіка–геаграфічнае становішча раёна характарызуецца наступнымі асаблівасцямі: кампактнасць тэрыторыі, наяўнасць значнай зямельнай плошчы, абмежаванасць прыродных рэсурсаў, асабліва паліўных і рудных, даволі спрыяльныя ўмовы для вядзення сельскай гаспадаркі, наяўнасць добра захаваных прыродных аб’ектаў, высокі працэнт лясістасці, чысціня і шматлікасць маляўнічых азёр і рэк, знаходжанне ўнікальных ландшафтаў, спрыяльныя ўмовы для развіцця экалагічнага турызму.




*Мядзел на паштоўцы выдавецтва “Рыфтур”*

Эканоміка–геаграфічнае становішча раёна вызначаюць наступныя адметнасці: блізкае знаходжанне Літвы і краін Еўрапейскага Звязу, наяўнасць чыгункі і міжнароднай аўтамагістралі Вільня–Полацк, аграрная і рэкрэацыйная спецыялізацыя гаспадаркі, нязначная колькасць пра-

мысловых прадпрыемстваў. Пэўныя праблемы ў развіцці раёна стварае нерацыянальнае размяшчэнне буйнейшых населеных пункаў па яго тэрыторыі: большасць з іх (Свір, Крывічы, Будслаў, Ілава, Княгінін) знаходзяцца на самай мяжы Мядзельшчыны.

У геаграфічным становішчы раёна за апошняе стагоддзе адбыліся значныя змены. Вельмі складаным яно было ў часы войнаў, асабліва Першай сусветнай, калі амаль тры гады лінія фронту падзяляла тэрыторыю раёна на дзве часткі. У 20–30–я гады XX стагоддзя Мядзельшчына знаходзілася на ўскраіне Польшчы ў складзе так званых "крэсаў усходніх". Гаспадарка развівалася марудна, мела сельскагаспадарчую скіраванасць; перанаселенасць вёсак выклікала беспрацоўе і, як вынік, эміграцыю ў Латвію, Эстонію і іншыя краіны Еўропы і Амерыкі.

Пасля Другой сусветнай вайны эканоміка–геаграфічнае становішча раёна палепшылася пасля ўваходжання ў агульную эканамічную прастору СССР. З атрыманнем Беларуссю незалежнасці Мядзельшчына, якая апынулася амаль на паўночна–заходняй мяжы краіны, атрымала добрыя перспектывы для свайго эканамічнага развіцця за кошт выгаднага геаграфічнага становішча. Аднак існаванне штучных бар'ераў у выглядзе візавага рэжыму, складанасцяў перасячэння мяжы, недахопаў у падаткаабкладанні, мытаў і іншых перашкод стрымліваюць эканамічныя працэсы. У бліжэйшай перспектыве на геаграфічнае становішча раёна значна паўплывае будаўніцтва Астравецкай АЭС, адлегласць ад якой да возера Нарач будзе складаць каля 50 кіламетраў.

***2. Адміністрацыйна–тэрытарыяльны падзел.*** У кожнай краіне для зручнага кіравання тэрыторыі падзяляюцца на асобныя часткі, якія называюцца адміністрацыйнымі адзінкамі. Іх колькасць залежыць ад плошчы

дзяржавы: чым большая краіна, тым складаней выглядае яе адміністрацыйна–тэрытарыяльны падзел. У Беларусі сістэма адміністрацыйных адзінак наступная: краіна — вобласць — раён ——сельскі (гарадскі, пасялковы) савет. На тэрыторыі кожнай з іх ствараюцца і дзейнічаюць мясцовыя органы ўлады.




*Кампазіцыя Мядзел.*
Аўтар Ю. Камандзірчык

Мядзельскі раён — адзін з 22 раёнаў Мінскай вобласці. Яго тэрыторыя падзелена на шэраг адміністрацыйных адзінак, цэнтрамі якіх з'яўляюцца найбольш значныя ў гаспадарча–культурным развіцці населеныя пункты.



*Сцяг Мядзельскага раёна*

Паводле сучаснага адміністрацыйна–тэрытарыяльнага падзелу на тэрыторыі раёна выдзяляецца 9 сельскіх саветаў: Будслаўскі, Занарацкі, Княгінінскі, Крывіцкі, Мядзельскі, Нарацкі, Сваткаўскі, Слабадскі. Населеных пунктаў — 310, сярод якіх г. Мядзел (цэнтр раёна), гарадскія пасёлкі Свір і Крывічы, курортны пасёлак Нарач, дарэчы, адзіны з такім статусам у Беларусі. У 2013 годзе скасаваны Сырмежскі і Старагабскі сельсаветы, а таксама пасялковы савет у Свіры.

У мінулым наш край меў іншую сістэму адміністрацыйных адзінак. У складзе ВКЛ і Рэчы Паспалітай Мяд-

зельшчына ў розныя часы ўваходзіла ў Ашмянскі, Вілейскі, Дзісненскі паветы Віленскага ваяводства; у складзе Расійскай імперыі — у Дзісненскі, Вілейскі, Свянцянскі паветы Мінскай і Віленскай губерняў.

Пасля ўваходжання Мядзельшчыны ў склад “крэсаў усходніх” Польшчы яе часткі знаходзіліся ў розных адміністрацыйных адзінках. Мядзел быў цэнтрам гміны спачатку Дунілавіцкага павета, а з 1925 года — Пастаўскага; Свір з’яўляўся цэнтрам гміны Свянцянскага павета; Кабыльнік (Нарач) быў гмінным цэнтрам Пастаўскага павета; Будслаў спачатку ўваходзіў у Дунілавіцкі павет, а пазней — у Вілейскі. Як бачым, уся Мядзельшчына належыла да адной Віленскай губерні, але ўваходзіла ў розныя паветы.




*Шыльда на ўездзе ў Мядзел з поўдня (ранейшая)*

З усталяваннем савецкай ўлады 15 студзеня 1940 года ў межах Вілейскай вобласці БССР былі ўтвораны Мядзельскі, Крывіцкі і Свірскі раёны, частка сучаснай тэрыторыі ўваходзіла ў Пастаўскі і Дунілавіцкі раёны.

У час нямецка–фашысцкай акупацыі тэрыторыя сучаснай Мядзельшчыны асобнымі часткамі ўваходзіла ў 3 акругі (гебіты): Глыбоцкую, Вілейскую і генеральную акругу Літва. Пасля вайны тэрыторыя нашага краю адносілася да Маладзечанскай вобласці. 20 студзеня 1960 года гарадскі пасёлак Мядзел атрымаў статус раённага цэнтра Мінскай вобласці. За год да гэтага ў Мядзель-

скі раён увайшлі Свірскія землі, а праз два гады Будслаў, Крывічы і вакольныя вёскі. Такім чынам, у сучасных межах Мядзельшчына знаходзіцца з канца 1962 года.

## § 2. Геалагічная будова, рэльеф, карысныя выкапні, клімат

| ВЫШЫНЯ НАД УЗРОЎНЕМ МОРА | ЭРА | ПЕРЫЯД | АСНОЎНЫЯ ГОРНЫЯ ПАРОДЫ |
|---|---|---|---|
| 200<br>150<br>100 | КАЙНАЗОЙ | Антрапаген | Пяскі, суглінкі, супесі, гліны, торф |
| 50<br>0<br>-50<br>-100<br>-150 | ПАЛЕАЗОЙ | Дэвон | Гліны, пяскі, мергелі, даламіты, гіпс |
| | | Ардавік | Кварцавыя пясчанікі, мергелі, гліны, гліністыя вапнякі |
| | | Кембрый | Пясчаныя гліны, алеўраліты |
| -200<br>-250<br>-300<br>-350<br>-400<br>-450<br>-500<br>-550 | ПРАТЭРАЗОЙ | | Пясчанікі, гліны, алеўраліты, граніты, габра, перыдатыты |
| -600 | АРХЕЙ | | Базальт, граніт, габра |

***1. Будова зямной кары і рэльеф.*** Мядзельскі раён знаходзіцца на Усходне–Еўрапейскай платформе Еўразійскай літасфернай пліты. Платформа — трывалы ўчастак зямной кары, і таму ў нашым краі не назіраюцца праявы, характэрныя для актыўных зон — няма ў нас вулканаў, гейзераў, моцных землетрасенняў. Раён размешчаны на Рускай пліце і таму мае двух'ярусную будову: знізу ляжыць падмурак — крышталічныя пароды старажытных часоў архейскай і пратэразойскай эр; зверху знаходзяцца рознаўзроставыя асадкавыя пароды, таўшчыня якіх складае 470–550 м. У свідравіне, якая прабурана на паўночным беразе Нарачы, глыбіня залягання падмурка склала 537 метраў. Таўшчыня асадкавых парод павялічваецца ў напрамку на паўночны захад, дзе тэктанічная структура Вілейскі пахавала выступ Беларускай антэклізы і пераходзіць у Балтыйскую сінеклізу.




*Размяшчэнне Астравецкай АЭС*



*Акамянелыя жыхары палеазойскіх мораў знойдзеныя ў Мядзельскім р-не* (з калекцыі аўтара)

Для платформ характэрны марудныя вагальныя рухі. Паводле звестак навукоўцаў, зараз паверхня раёна падымаецца з хуткасцю да 1–2 мм у год. Землетрасенні малаверагодныя, аднак усё ж такі могуць здарацца або па прычыне зрухаў горных парод падмурка, дзе выяўлены глыбінныя разломы, або як водгулле ваганняў зямной кары ў Карпатах ці ў Балтыйскім моры.

***Цікавыя факты:*** *У 2004 годзе па Мядзельшчыне прайшла хваля землетрасення, эпіцэнтр якога знаходзіўся ў Калінінградскай вобласці. Сіла штуршкоў была 3–4 балы. У кватэрах звінеў посуд, адчыняліся дзверы шафаў, хісталіся фіранкі.*

*Эпіцэнтр самага моцнага ў Беларусі землетрасення, якое адбылося ў 1907 годзе і мела магутнасць каля сямі балаў, знаходзіўся ў суседняй Астравеччыне, у мясцовасці, дзе цяпер будуецца Беларуская АЭС.*

Геалагічная будова зямных нетраў на тэрыторыі Мядзельскага раёна не вызначаецца складанасцю: на гранітна–гнейсавым падмурку амаль гарызантальна залягаюць розныя асадкавыя пароды, сярод якіх пераважаюць пяскі, супяскі, суглінкі, гліны, торф, якія назапашваліся на працягу доўгага часу, асабліва калі наш край быў дном старажытных мораў і акіянаў. Найчасцей гэта адбывалася ў кембрыйскі, ардовікскі і дэвонскі перыяды палеазойскай эры. Так, кем-



*Слабадскія ўзгоркі* (фота аўтара)

брыйскае мора пакрывала ўсю паўночна–заходнюю частку Беларусі, у выніку чаго на глыбіні назапасілася амаль стометровая тоўшча тагачасных адкладаў. У ардовіку мора абмялела, адступіла і вада знаходзілася толькі на заходняй Мядзельшчыне, утварыўшы слой асадкавых парод каля дваццаці метраў, пераважна даламітаў. У сілурыйскім перыядзе вадаём існаваў толькі на невялікай плошчы на Пасвір'і. Магутнасць адкладаў дэвонскага мора, у асноўным глін і мергеля, вагаецца ад 40 да 50 метраў.



*Узгорыста-лагчынны рэльеф каля Лотвы* (фота аўтара)

У мезазойскую і кайназойскую эры Мядзельшчына была сушай, і таму на паверхні пераважалі працэсы разбурэння горных парод і вынасу іх у бліжэйшыя моры і акіяны.

***Цікавы факт:*** *З 1989 года каля вёскі Целякі зямныя нетры праслухоўвае геафізічная абсерваторыя "Нарач". Пастаянныя назіранні пачалі праводзіцца ў часовым будынку з 1981 года. Цяпер сейсмічныя датчыкі ўсталяваны ў спецыяльным бункеры на глыбіні 6 метраў ад зямной паверхні. У абсерваторыі таксама праводзіцца вывучэнне гідрадынамічнага рэжыму падземных вод у назіральных свідравінах.*

На сучаснае аблічча паверхні раёна зрабілі ўплыў няроўнасці крышталічнага падмурку, нашэсці ледавікоў, сучасныя рухі зямной кары, дзейнасць вады і ветру, ваганні тэмператур.

Наша тэрыторыя мае слабаўзгорысты характар і з’яўляецца часткай вялікай Усходне–Еўрапейскай раўніны. Найбольш прыўзнятая мясцовасць ляжыць у паўночнай і заходняй частцы раёна на Свянцянскім узвышшы. Там сярэднія вышыні маюць адзнакі каля 200 метраў над узроўнем Балтыйскага мора. Свянцянскае ўзвышша — даволі вялікая форма рэльефу, якая працягнулася з усходняй Літвы ў паўночна–заходнюю Беларусь на 120–130 кіламетраў, і на Мядзельшчыне прадстаўлена асобнымі градамі — выцягнутымі сістэмамі ўзгоркаў. Гэта Свянцянская, Паўночна–Нарацкая, Канстанцінаўская, Свірская, Паўднёва–Нарацкая грады.

Вышэйшая кропка раёна знаходзіцца на



*Берагі ракі Страча ў Алешках самая нізкая мясцовасць раёна* (фота аўтара)



*Краявід паўднёвай Мядзельшчыны каля Карабанаў* (фота Ганны Пракаповіч)



*Даліна Вузлянкі каля Бонды* (фота аўтара)

Канстанцінаўскай градзе на поўнач ад вёскі Канстанцінава і мае адзнаку 234,2 метра. Недалёка ад яе на Свірскай градзе каля вёскі Сёмкі ўзвышаецца гара вышынёй 233,2 метры. У паўночнай частцы раёна на ўсход ад пасёлка Нарач на паўночнай ускраіне вёскі Зялёнкі вызначаецца адзнака вышыні 233,9 метра, у паўночна–ўсходняй частцы Мядзельшчыны адметна ўзвышаецца над мясцовасцю гара каля вёскі Гулі (230 м). Самая нізкая мясцовасць ляжыць на поўдзень ад возера Нарач па рэчышчах Нарачанкі і Вузлянкі, а таксама на поплавах рэк Страча і Струна. Ніжэйшая кропка з адзнакай 130,9 метра зафіксавана на ўрэзе вады ракі Страча на паўднёвы захад ад Свіра каля вёскі Алешкі.



*“Качэргі”*
Карціна В. Шаранговіча

Паводле характару паверхні, а таксама па ўмовах фарміравання, тэрыторыю раёна можна падзяліць на дзве часткі: узвышаную паўночную і заходнюю — Свянцянскае ўзвышша (грады), і паніжаную паўднёвую — Нарацка–Вілейскую раўніну. Мяжа паміж імі праходзіць ад паўднёвага берага возера Свір праз возера В. Швакшты па паўночным беразе возера Нарач на ўсход уздоўж паўночнага краю Габскіх балот.

Над суседняй Нарачаншчынай Свянцянскія грады ўзвышаюцца на 50–60 метраў. Па найбольшых вышынях праходзіць водападзел паміж басейнамі рэк Дзісна (Заходняя Дзвіна) і Вілія (Нёман).

Фарміраванне такога рэльефу звязана ў асноўным з

дзейнасцю апошняга паазёрскага ледавіка і вод, якія ўтварыліся пасля таго, як ён растаў. Свянцянскія грады — гэта складаная сістэма канечнамарэнных узгоркаў, якія былі насунуты ледавіком. У паўночнай частцы Мядзельшчыны яны прасочваюцца ў выглядзе Паўночна–Нарацкай грады, якая стромка спускаецца да ўзбярэжжа Нарачы, Дзягільскага і Габскіх балотаў. На паўночным захадзе раёна навукоўцамі выдзяляецца Свірская і Канстанцінаўская грады, дзе адносныя перавышэнні дасягаюць 10–15 метраў. На гэтых формах рэльефу пераважаюць узгоркі з пукатымі вяршынямі, сустракаюцца камы і тэрмакарставыя западзіны.

Размешчаная на поўдзень ад Нарачанскіх азёр Нарацка–Вілейская раўніна — дно старажытнага прыледавіковага вадаёма і моцна размытых талымі водамі марэнных адкладаў папярэдняга сожскага ледавіка. Яе роўная паверхня часта парушаецца невысокімі падняццямі — марэннымі астравамі, а таксама скопішчамі дзюнна–ўзгорыстых пяскоў. Невысокай Паўднёва–Нарацкай градой




*Рэльеф пасля ледавіка*




*Геафізічная абсерваторыя ў Целяках*
(фота аўтара)

раўніна падзяляецца на больш узвышаную паўночную частку з вышынямі 170-180 метраў, і ніжэйшую паўднёвую з адзнакамі вышыні 150-160 метраў.

***Цікавы факт:*** *каля вёскі Качаргі ёсць гара Старая, якая, па сведчанні мясцовых жыхароў, мае незвычайную энергетыку, бо яна намолена на сем, а можа і на дванаццаць пакаленняў людзей. Калі ўзысці на яе, укленчыць і памаліцца аб чым баліць душа, то абавязкова палягчэе.*

Калісьці даўно, 15–20 тысяч гадоў таму, гіганцкі ледзяны панцыр накрыў паўночную Еўропу і, рухаючыся на поўдзень, спыніўся на лініі сучасных азёр Свір і Нарач. Калі ж пацяплела, то з гэтай высокай ледзяной сцяны, а таўшчыня лёду была некалькі соцень метраў, пачалі сцякаць патокі вады, якая выбівала ў мёрзлым грунце паглы-

бленні. Такім чынам утварыўся прыледавіковы вадаём, які пазней спусцілі рэкі Нарачанка, Вузлянка, Сэрвач і Сырмеж (Вялікі Перакоп). У найбольш глыбокіх месцах вада засталася ў выглядзе сучасных Нарачанскіх, Мядзельскіх, Свірскіх і некаторых іншых азёр, а таксама Габскіх, Дзягільскіх і Чарэмшыцкіх балот.



*Нізінны рэльф Габскіх балот*
(фота аўтара)

На месцы ж былога ледавіка канцавая марэна ўтварыла шматлікія ўзгоркі, грады, масівы. Самы складаны рэльеф сфарміраваўся ў паўночна–заходняй частцы раёна на месцы заказніка "Блакітныя азёры". Пад уздзеяннем аднаго з ледавіковых вывадных языкоў там утварыўся Глубельскі ледавіковы комплекс паралельнага лагчынна–градавага рэльефу, у якім выдзяляецца ад 8 да 30 пар "лагчына–града". Гэта тэрыторыя з'яўляецца эталонным геамарфалагічным аб'ектам.

З умовамі фарміравання паверхні звязаны і генетычныя тыпы рэльефу. Найбольш распаўсюджанымі з іх з'яўляюцца тыя, што звязаны з дзейнасцю самога ледавіка (канцавыя і донныя марэны), водных патокаў (озы, камы, даліны рэк), нізкіх тэмператур (крыягенныя), раслін і жывёл, чалавека (тэхнагенныя формы).

***2. Карысныя выкапні.*** Карысныя выкапні падзяляюцца на чатыры групы: гаручыя (паліўныя), рудныя (металічныя), нярудныя (неметалічныя) і вадкія. Мядзельскі раён не вельмі багаты на карысныя выкапні. З групы неметалічных найбольш распаўсюджаны радовішчы бу-

даўнічых матэрыялаў (гліны, пяскі, жвір і некаторыя іншыя), сапрапелю, прэснаводных вапняковых адкладаў, будаўнічага каменя.

Большасць радовішчаў пяскоў у нашым раёне адносіцца да групы будаўнічых і выкарыстоўваецца для вытворчасці блокаў, панэляў, пліт, сілікатнай цэглы. Найбольшую колькасць пяску ўтрымліваюць Наўрынскае і Ніўкаўскае радовішчы.



*Жвіровы кар'ер каля Цюкшаў. На гары французскія пахаванні 1812 года* (фота аўтара)

Пясчана–жвіровы матэрыял у прыродзе сустракаецца ў выглядзе сумесі пяску, жвіру і галькі. Выкарыстоўваецца для вытворчасці бетону і жалезабетону, будаўніцтва, пракладкі дарог. Усяго выяўлена 5 радовішчаў пясчана–жвіровага матэрыялу, з якіх найбольшымі з'яўляюцца Швакштаўскае, Кабыльніцкае, Рудашанскае, Азаркаўскае.

Паклады глін, якія можна выкарыстоўваць у гаспадарчай дзейнасці, выяўлены пераважна каля вялікіх балотных масіваў. Усяго разведана сем прамысловых радовішчаў гэтага карыснага выкапню, сярод якіх выдзяляюцца сваімі памерамі Місунскае, Качаноўскае і Старагабскае.

Ледавік прынёс на тэрыторыю раёна шмат камянёў розных памераў — ад некалькіх сантыметраў да некалькіх метраў у папярэчніку. З'явіліся яны да нас здалёку — са Скандынавіі і Фінляндыі. Каменне выкарыстоўваецца ў якасці будаўнічага матэрыялу. Некаторыя валуны ўзяты

пад ахову, з'яўляюцца помнікамі прыроды.

Сапрапель — гэта ілістыя адклады на дне вадаёмаў, якія ўтрымліваюць шмат арганічных рэчываў. У залежнасці ад складу колер бывае чорны, шэры, блакітны, ружовы, нават чырвоны. На тэрыторыі раёна выяўлена 16 радовішчаў азёрнага сапрапелю. Ацэнка донных адкладаў і сапрапеляў даследаваных азёр паказала, што іх запасы складаюць 109,7 млн. м3. Найбольшыя іх тоўшчы вызначаны ў азёрах Свір (запасы 42,5 млн м3), Мядзел (22,7 млн м3), Мястра (20,4 млн м3), Баторына, Бледнае (Бляда). Гэтыя сапрапелі могуць выкарыстоўвацца ў якасці ўгнаенняў, для вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і для атрымання буравых раствораў.

З гаручых карысных выкапняў на тэрыторыі раёна знойдзены і выкарыстоўваецца толькі торф. Таўшчыня тарфяной масы ў асноўным 1–3 м. У раёне налічваецца 22 радовішчы торфу, з якіх самыя вялікія Габы (40 млн. т), Чысцец (26,1 млн. т), Чарэмшыца. Торф, які здабываюць у раёне, спажываецца ў асноўным у сельскай гаспадарцы.



*Урочышча Калубенішча каля Брусоў - месца здабычы торфу* (фота аўтара)

Ёсць у Мядзельскім раёне і радовішчы падземных мінеральных вод, з якіх шырока вядома і актыўна выкарыстоўваецца ў лячэнні "Нарачанская". Гэта сульфатна–хларыдна–натрыевая мінеральная вада блізкая па сваім складзе да Трускавецкай. Яна ўжываецца пры цукровым

дыябеце, падагры, захворваннях страўніка, панкрэатыце.

Нарачанскім заводам напіткаў выпускаецца хларыдная натрыевая лячэбна–сталовая мінеральная вада “Нарачанская–1”, якая рэкамендуецца для ўжывання пры хранічных гастрытах са звычайнай і паніжанай сакраторнай функцыяй страўніка, хранічных калітах і энтэракалітах, хранічных захворваннях печані, хранічных панкрэатытах, парушэннях абмену рэчываў (цукровым дыябеце, атлусценні, падагры).



*У кар’еры*
(фота аўтара)

Радовішчаў рудных карысных выкапняў у раёне не выяўлена.

***3. Клімат.*** На фарміраванне клімату Мядзельшчыны ўплывае знаходжанне раёна ва ўмераных шыротах, наблізанасць да Атлантычнага акіяна, перавага вятроў заходняга накірунку, узвышана–раўнінны рэльеф, паветраныя масы, цыклоны і антыцыклоны.

Тэрыторыя знаходзіцца ва ўмераным кліматычным поясе, тып клімату — умерана–кантынентальны. Паводле раянавання тэрыторыя ўваходзіць у Ашмянска–Мінска–Свянцянскі (паўночная частка) і Нарацка–Вілейскі (паўднёвая частка) агракліматычныя раёны. Заходнія вятры з Атлантычнага акіяна вельмі моцна ўплываюць на надвор’е. Зімой яны прыносяць павышэнне тэмпературы паветра, павелічэнне адноснай вільготнасці і выпадзенне ападкаў. Летам яны паніжаюць тэмпературу. Сярэдняя

хуткасць ветру мае значэнні 3–4 м/с, зрэдку, асабліва зімой, бываюць моцныя вятры да 10–15 м/с.

***Цікавы факт:*** *8 жніўня 2010 года праз Мядзельшчыну прайшоў штармавы вецер з градам, у выніку чаго было пашкоджана шмат будынкаў, а вялікая колькасць дрэў паміж Мядзелам і Брусамі была паламана або вывернута з корнем.*

Чаргаванне розных паветраных мас, цыклонаў і антыцыклонаў робіць надвор'е ў раёне вельмі няўстойлівым. Асабліва характэрна гэта для вясны і восені.



*Вынік разгулу стыхіі ў Мядзеле*
(фота з сайта charter97.org)

Сярэднегадавая тэмпература ў раёне +5,5°С, прычым самы цёплы месяц ліпень (каля +17°), а самы халодны — студзень (каля –7°). Але сярэднямесячная тэмпература мае даволі вялікія ваганні ў розныя гады. Для студзеня дыяпазон тэмператур фіксуецца ад –0,6° да –13,5°, для ліпеня — ад 13,5° да 20°.



*Памеры градзін у Мядзеле*
(фота з сайта charter97.org)


Гадавы ход тэмпературы ў Мядзельскім раёне
Тэмпература, С
20
15
10
5
0
-5
-10
С Л С К М Ч Л Ж В К Л С
Месяцы


Гадавое выпадзенне ападкаў у Мядзельскім раёне
Колькасць ападкаў, мм
100
90
80
70
60
50
40
30
20
10
0
С Л С К М Ч Л Ж В К Л С
Месяцы

Колькасць дзён з сярэднясутачнай тэмпературай вышэй за 0° складае 239 , а працягласць безмарознага перыяду — 129 сутак. Абсалютны максімум тэмпературы мае значэнне +35°С, абсалютны мінімум — (– 39°С).

Ападкаў за год у сярэднім выпадае 660 міліметраў, але размяркоўваюцца яны па тэрыторыі раёна з году ў год нераўнамерна. Найбольш "мокра" на Свіршчыне, дзе ўзгоркі затрымліваюць вільгаць паветраных мас. На Нарацка–Вілейскай раўніне колькасць ападкаў змяншаецца. У найбольш мокрыя гады з дажджамі, снегам і градам выпадае на зямлю звыш 730–750 міліметраў, у сухія — не больш за 450 мм. Максімум ападкаў прыпадае на ліпень–жнівень, мінімум — на студзень–люты, хоць часцей дажджы і снягі ідуць восенню і зімой.



*Засуха агаліла ўзбярэжжа возера Мядзел*
(фота аўтара)



*Першы лёд на Баторыне*
(фота аўтара)

Снежнае покрыва стала з'яўляецца на палях раёна

звычайна ў пачатку снежня і ляжыць каля 100–110 дзён. Таўшчыня снегу дасягае 25–30 сантыметраў, але апошім часам бываюць і маласнежныя зімы, як, напрыклад, у 2014–2015 годзе.

Вялікую ролю ў развіцці прыроды адыгрывае вегетацыйны перыяд — сумы актыўных тэмператур паветра вышэй +5°C. У нашым раёне ён адзін з самых кароткіх у Беларусі — усяго каля 186 дзён пры суме тэмператур 2400°. Цікава і тое, што сумы актыўных тэмператур паветра вышэй +10°C таксама адны з найменшых у Беларусі — каля 1900°.

Агракліматычнае раянаванне адносіць Мядзельскі раён да Паўночнай агракліматычнай вобласці і характарызуе наступным чынам: умерана халодная зіма з устойлівым снежным покрывам, умерана цёплы вегетацыйны перыяд, устойлівае ўвільгатненне.

Комплексны кантроль за надвор’ем і станам водных аб’ектаў арганізаваны на азёрнай станцыі “Нарач”, якая ўтворана ў 1960 годзе гідраметэаралагічнай службай краіны. На ёй праводзяцца кругласутачныя васьмітэрміновыя метэаралагічныя назіранні за тэмпературай і вільготнасцю паветра; атмасферным ціскам і бараметрычнай тэндэнцыяй; атмасфернымі ападкамі; характарыстыкамі ветру; колькасцю, формай і вышынёй ніжняй граніцы аблокаў; метэаралагічнай бачнасцю; тэмпературай і станам паверхні глебы або снежнага покрыва; сярэдняй вышынёй і характарыстыкай снежнага покрыва на пастаянным участку; інструментальныя назіранні за галалёдна–намаразевымі адкладаннямі; кругласутачныя назіранні за атмасфернымі з’явамі і ападкамі; назіранне за снежным покрывам пры вытворчасці снегамерных здымак на лясным участку. Акрамя гэтага вывучаецца рэжым узроўню вады, тэмпературны і лядовы рэжым, выпарэнне з воднай паверхні. Функцыянуе шэсць гідралагічных пастоў.

## § 3. Азёры, рэкі, вадасховішчы, балоты, крыніцы



*Нарачанская група азёр, 1994 г.*

***1. Азёры.*** Мядзельшчыну называюць азёрным краем, а возера Нарач — блакітным сэрцам Беларусі. Сапраўды, у нашым раёне многа азёр, прычым, адметных, непаўторных і ў многім унікальных па сваіх фізічных і біялагічных характарыстыках.

На Мядзельшчыне налічваецца 52 возеры з агульнай плошчай 16,6 тыс. гектараў, што складае 8,4 % тэрыторыі раёна. Размяшчаюцца яны пераважна ў цэнтры і ў заходняй частцы нашага краю, утвараючы пяць груп: Нарачанскую (14 азёр, буйнейшыя: Нарач, Мястра, Баторына), Мядзельскую (11 азёр, буйнейшыя: Мядзел, Воўчына, Лотвіны, Рудакова), Свірскую (4 возеры, буйнейшыя: Свір, Свірнішча), Швакшцінскую (2 возеры: В. Швакшты і Белагаловае) і Балдуцкую (15 азёр, буйнейшыя: Балдук, Глубля, Глубелька). Некаторыя вадаёмы Свірскай і Швакшцінскай груп знаходзяцца на тэрыторыі суседніх раёнаў,



*На возеры Мястра*
(фота аўтара)



*Вечар на Мястра*
(фота аўтара)



*На Баторыне* (фота аўтара)

а шэраг азёр (напрыклад, Кузьмічы, Дзягілі, Арэхавае, Памяльніца) не ўваходзяць у групы.

Большыя азёры вывучаліся лабараторыяй азёразнаўства БДУ. Вынікі даследаванняў паказалі, што вадаёмы адносяцца да розных генетычных тыпаў і моцна адрозніваюцца сваімі морфаметрычнымі асаблівасцям і рэжымамі. Азёры сфарміраваліся 9–10 тысяч гадоў таму пасля сыходу апошняга ледавіка. Па паходжанні выдзяляюць некалькі тыпаў азёрных катлавін: падпрудныя (Нарач, Мядзел, Мястра), якія ўтварыліся ў паніжэннях паміж марэннымі градамі; лагчынныя (Балдук, Воўчына, Глубля, Лотвіны, Свір, Свірншча), якія ўзніклі ў выніку заглыблення ледавіковымі языкамі лагчын і іх размыву талымі водамі; эварзійныя (Глубелька, Рудакова), якія з’явіліся ў выніку выбівання канічных катлавін талымі водамі, што падалі

з высокіх ледзяных уступаў на мёрзлую зямлю; тэрмакарставыя (Кузьмічы), якія ўтварыліся ў марэне на месцы астаткавых ледзяных глыб; мелкаводныя астаткавыя (Баторына, Белае (Бляда), якія засталіся на глыбейшых месцах былых прыледавіковых вадаёмаў.



*Возера Мядзел і ўзбярэжжа*

Найбольшае па плошчы возера раёна і краіны — Нарач (79,6 м$^2$). Яго памер на 26 квадратных кіламетраў перавышае другое возера Беларусі — Асвейскае. У дваццатку буйнейшых азёр рэспублікі ўваходзяць яшчэ тры блакітныя акны Мядзельшчыны: Свір (22,3 км$^2$), Мядзел (16,2 км$^2$), Мястра (13,1 км$^2$).

Самае глыбокае возера раёна — Балдук (39,7 м), якое па гэтым паказчыку займае 5 месца сярод азёр нашай краіны. У пяцёрку лідэраў уваходзяць таксама Воўчына (32,9 м, 14 месца ў Беларусі), Рудакова (28,6 м, 29 месца), Вялікі Болцік (27 м, 35 месца), Глубля (26,8 м, 36 месца).

Па сярэдняй празрыстасці вады Нарач займае трэцяе месца ў Беларусі, крыху саступаючы азёрам Глыбокае (Полацкі раён) і Воласа Паўднёвае (Браслаўскі раён). Дно ў нашым “моры” праглядаецца да глыбіні 7,4 метры. А вось у возеры Баторына, якое ўваходзіць з ім у адну сістэму, празрыстасць вады мае велічыню ўсяго паўметра.

Самым доўгім возерам раёна з’яўляецца Свір, якое выцягнулася на 14,1 кіламетра і займае па гэтым паказчыку другое месца ў Беларусі пасля возера Сялява Крупска-


*На возеры Мядзел* (фота аўтара)


*Мядзельскія трыснягі* (фота аўтара)


*Возера Свір* (фота аўтара)

га раёна. А па шырыні ўсе вадаёмы краіны апярэджвае наша Нарач (9,8 км).

Амаль усе азёры каля берагоў маюць некалькі палос расліннасці. Найбольш выяўна прасочваюцца палосы надводных (тросць, сіта, чарот) з плаваючымі лістамі (кубышкі, лілеі) і падводных (рдэсты, эладэі, рагаліснікі, целарэзы) раслін.

Шэраг азёр Мядзельшчыны інтрыгуе і вабіць сваімі адметнасцямі і загадкамі, у кожнай азёрнай групе ёсць свае перліны. Так, у Балдуцкім блакітным россыпе (Блакітных азёрах), пра якія людзі ведаюць далёка па–за межамі краіны, ёсць некалькі ўнікальных вадаёмаў. Балдук акрамя вялікай глыбіні зачароўвае сваёй таямнічай легендай: старажылы расказваюць, што ў возеры жыве нейкі цуд — ці то гіганцкая рыбіна, ці то змей,— які сяды–тады ўздымаецца на паверхню і ўзбурае вялікія хвалі. Магчыма, родзіч занакамітага лохнескага дзіва.

Возера Глубля мае незвычайны блакітны колер вады, а ў Мёртвым возеры расліннасці няма — настолькі непрыдатнае яно для жыцця. Здзіўляе ўсіх Глубелька: гэта адзіны вадаём, у якім не бывае веснавога і асенняга перамешвання вады, а ў прыдонных слаях фарміруецца серавадародная зона з мінералізацыяй да 350–400 мг/л.



*Возера Вялікія Швакшты (фота аўтара)*

Адным з самых загадкавых вадаёмаў Блакітных азёр з'яўляецца возера Цыклоп. Яно нараджаецца на вачах людзей. Першапачаткова было заўважана на пратоцы з возера Глухое ў раку Страча ў 2000 годзе, а на сённяшні дзень вырасла да дзевяці метраў у даўжыню і да трох у шырыню.



*Возера Рудакова* (фота аўтара)



*Возера Глубля* (фота аўтара)

У Мядзельскай групе выдзяляецца возера Мядзел — адзін з прыгажэйшых вадаёмаў Беларусі. Высокія, са стромкімі схіламі берагі перамяжоўваюцца з берагамі, нізкімі, забалочанымі; смалістыя сасновыя лясы меладычна спяваюць песні вятроў; маляўнічыя



*Возера Коззе* (фота аўтара)

астравы фантастычнымі караблямі плывуць па хвалях воднай прасторы. Возера — даволі вялікі вадаём з плошчай каля 16 км2 і глыбінямі да 24–х метраў, з моцна зрэзанай берагавой лініяй і групай астравоў. Асабліва вылучаецца ў паўднёвай частцы возера дзіўная пясчаная каса — Лукінскі оз,— якая працягнулася на два кіламетры. На супрацьлеглым баку ўзвышаецца над наваколлем масіўны паўвостраў Дубавы.

Дно вадаёма няроўнае, на ім ёсць выспы, падняцці, водмелі і глыбокія западзіны. Усяго на возеры налічваецца восем астравоў агульнай плошчай 0,24 км$^2$: Замак (там засталіся рэшткі ўмацаванага паселішча), Селішча, Уклейна, Круглова, Гарадок, Бярозава, Кульчына, Астравок.

***Цікавыя факты:1.*** *У даўнія часы на выспе Замак жыла каралеўна. Падчас вайны са шведамі яе палац і ахова былі знішчаныя. Разбураны і мост, які ішоў да выспы з боку вёскі Скары. Некаторыя рыбакі ўзгадваюць тыя вялікія слупы, што былі забітыя ў неглыбокае дно. У час лоўлі за слупы часта чапляліся сеткі. А месца гэта і да нашага часу носіць назву Маставіца.*

***2.*** *У канцы 60–х – пачатку 70–х гг. тут праводзіліся здымкі мастацкага фільма па раману У. Караткевіча “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”. Акцёр у аблічны Хрыста ішоў па падводных слупах возера Мядзел, а ў сюжэце падавалася, што ён ідзе па вадзе.*

Вельмі прываблівае турыстаў і адпачываючых невялікае (0,24 км$^2$) возера Рудакова, якое мае стромкія схілы вышынёй да 18–20 метраў, а вада вызначаецца вельмі высокай празрыстасцю. З прычыны гэтага падводная раслiннасць распаўсюджана да глыбіні 9–13 метраў. Асаблівасці геаграфічнага становішча і вялікая глыбіня (28,6 м) паспрыялі захаванню ў возеры прадстаўнікоў рэліктавай іхтыяфаўны.



*Шкленікаўскае азярцо*
(фота аўтара)

Як і ва ўсіх глыбокіх вадаёмах, якія закрыты ад вятроў, вада ў возеры слаба перамешваецца і таму летам награваецца толькі з паверхні. На глыбіні 15–16 метраў тэмпература не падымаецца вышэй 7–8 градусаў. Па гэтай прычыне вада насычана кіслародам, што спрыяе развіццю сігавых рыб. Водзяцца ў возеры і рэдкія шыракапалыя ракі.



*Ціша на возеры Мядзел*
(фота аўтара)

***2. Возера Нарач.*** Нарачанская група азёр — самая вялікая ў Беларусі па плошчы (каля 100 км2). Возера Нарач, якое атрымала ў народзе назву “Беларускае мора”,— найбуйнейшае ў нашай краіне. Аб’ём вады ў ім — 0,7 км3. З возерам, як і з усім Нарачанскім краем, звязана

шмат легенд і апавяданняў, яно апета ў паэзіі і прозе. Пра незвычайную прывабнасць возера трапна выказаўся пісьменнік Мікалай Дзелянкоўскі: *"Прыгажосць Нарачы цяжка апісаць. Яе лягчэй адчуць душой, сэрцам. І адчуванне гэта прыходзіць у адно імгненне, калі ты пад уплывам сотні ўражанняў раптам спасцігаеш сутнасць гэтай перліны беларускай прыроды"*.



*Празрыстая бязмежная прастора.*
(фота аўтара)

З паўночнага захаду на паўднёвы ўсход возера выцягнута на 13 км, сярэдняя шырыня яго амаль 10 км, а даўжыня берагавой лініі каля 41 км.



*Высокі Нарачанскі бераг*
(фота аўтара)

Вядомы беларускі географ Аркадзь Смоліч у кнізе "Географія Беларусі" (1919 г.) так апісвае Нарач: *"Дзеля гэтага [з прычыны велічыні] працілежнага берагу возера саўсім блізка не відаць, асабліва пры пахмурным надвор'і. Калі ж да гэтага вецер узбурыць высокія хвалі, робіць яно ўражаньне вялікае ды дужа харошае марское затокі, акружанае вянком зялёных бароў. Гэтае ўражаньне яшчэ пабольшуецца дзеля таго, што хвалі выкідаюць на бераг шмат вадзяных расьлінаў, творачы ўзьбярэжны вал, які прыпамінае такія-ж валы на марскіх узьбярэжжах"*.

Дно возера адносна роўнае (сярэдні нахіл 1°), на ўсходзе больш складанай будовы (нахіл 5 – 6°), з чаргаваннем узгорыстых, градава–ўзгорыстых і плоскіх участкаў, месцамі ёсць водмелі. Паверхня дна глыбінёй да 2 м займае 17 % плошчы возера, да 5 м — 36%, больш за 20 м — 1,8%. Прыбярэжная водмель пясчаная, часткова заіленая, каля стромкіх берагоў ляжаць галька і валуны. Глыбакаводная частка выслана крэменязёмістымі і карбанатнымі сапрапелямі, гліністa–пясчанымі адкладамі.

Нарачанская катлавіна ўнікальнай паўвыспай Наносы падзяляецца на два плёсы — паўночна–заходні Малы з глыбінёй да 18 метраў і паўднёва–ўсходні Вялікі (глыбіня 24,8 м). Максімальная тэмпература прыпаверхневага слоя вады 22 °С бывае ў канцы ліпеня — пачатку жніўня. Зімовыя тэмпературы ў тоўшчы вады 2,5 °С.



*Пяшчаныя пляжы* (фота аўтара)



*Вялікія валуны каля ўзбярэжжа* (фота аўтара)

Галоўнай крыніцай паступлення вады ў возера з'яўляюцца ападкі (62%), каля траціны — паверхневы сцёк, менш дзесяці працэнтаў — падземныя воды.

Час ад часу на Нарачы фіксуюцца рэдкія з'явы, якія называюцца французскім словам "сэйшы" — перыядычныя ваганні ўсёй воднай масы, пры якіх каля аднаго бе-

рага ўзровень вады павышаецца, а каля супрацьлеглага паніжаецца, і наадварот. Адна з найбольш моцных такіх з'яў назіралася 29–30 чэрвеня 1963 года з перыядам 48–50 мінут і была выклікана моцнай навальніцай са штармавым ветрам.



*Востраў Выспа* (фота аўтара)



*Масток у водную сінечу* (фота аўтара)

Недалёка ад паўночнага берага, нібы карабель на рэйдзе, узвышаецца сімпатычны астравок каралевы Боны (востраў Выспа). Па звестках гісторыка А. Кіркора, якія ён падае ў кнізе "Живописная Россия", ад вёскі Наносы ў напрамку на Мядзел працягнулася падводная каменная грэбля. Яна мае даўжыню каля вярсты і шырыню такую, што можна праехаць на чацвёрцы коней. Насустрач ёй ад вострава таксама ідзе грэбля, але яны не злучаюцца, адлегласць паміж імі вялікая. Хто, калі і для чаго яе будаваў — невядома. Легенда прыпісвае гэта збудаванне чарцям. Ад паўночнага берага да вострава, верагодна, ішоў падводны мост, пра што сведчыць назва рыбацкай тоні "каля Моста". Берагавая ж лінія Нарачы там няроўная, абрывістая, актыўна разбураецца азёрнымі хвалямі, якія сваёй дзейнасцю ўжо вымылі з марэны вялікія і малыя камяні.

Сярэдняя глыбіня ў возеры дасягае 9 метраў, а максімальная намерана ў Гатавіцкіх ямах, дзе адзнака дасягае

24,8 метра. Празрыстая вада, праз якую глыбока пранікаюць сонечныя промні, дазваляе водным раслінам утвараць густыя падводныя лугі з урэчніку, эладэі, рагалісніка, водарасцей. У асобных месцах утварыліся зараснікі трысьнягу і чароту. На дне часта сустракаюцца плямы імхоў і харавых вадарасцяў.

Вада ў Нарач паступае з возера Мястра праз кароткую рачулку Скема, а таксама з сямнаццаці невялікіх ручаёў (Пронькі, Купа, Антонізберг, Сіманы і іншыя), што ўпадаюць у возера пераважна на паўночным яго ўзбярэжжы. Выцякае з Нарачы толькі адна рака — Нарачанка, якая нясе ваду на поўдзень да Віліі, прытока Нёмана. З прычыны замаруджанага водаабмену возера адносіцца за слабапрацёчных вадаёмаў: на поўную змену воднай масы патрэбна цэлае дзесяцігоддзе. Але тым не менш, сярод вялікіх азёр Беларусі Нарач знаходзіцца ў лідэрах па чысціні і празрыстасці вады. Пясок, жвір і валуны на яго дне праглядаюцца да глыбіні каля 7–9 метраў. Увосень вадаём доўга, як кажуць рыбакі, “гуляе”, бо вялікі аб’ём вады марудна астывае, а вятры ламаюць крохкі лёд і не даюць яму ўвайсці ў сілу. У асобныя гады каля берагоў утвараюцца даволі высокія таросы, якія на-



*Нарач у пач XX ст.*
(фота Яна Булгака)



*Бераг возера Нарач пач. XX ст.*



*“Над Нараччу”*. Карціна В. Шаранговіча

грувашчваюцца з хаатычна замарожаных ільдзін.

Зімой магутнасць азёрнага ледзянога покрыва дасягае 50–60 сантыметраў, у найбольш халодныя гады — да 90 см. Вызваляецца з лядовага панцыру Нарач звычайна пазней за суседнія вадаёмы, у асобныя гады лёд ляжыць аж да пачатку мая.

Іхтыяфауна ў возеры рапушкава–сігавая, уключае 19 мясцовых відаў рыб. Ва ўловах пераважаюць лешч, акунь, шчупак, уклейка, плотка. Нарач заўсёды славілася вялікімі запасамі вугра і сялявы. Апошім часам актыўна практыкуецца прамысловае зарыбленне Нарачы і іншых вадаёмаў акліматызаванымі відамі: еўрапейскі вугор, амурскі сазан, судак, сіг, пелядзь, сярэбраны карась і іншыя.

Возера заўсёды шчодра карміла рыбакоў і ўсіх, хто жыў на яго ўзбярэжжы. З гісторыі вядомы выпадак, калі ў час вялікага голаду летам 1847 года на Нарачы разгулялася страшэнная бура, падчас якой хвалі на працягу дзесяці

дзён выкідвалі на бераг уклейку ў такой вялікай колькасці, што людзі збіралі яе вазамі, сушылі, а зімой пяклі з яе хлеб, чым і пракарміліся.

***3. Рэкі.*** Мядзельшчына мае густую рачную сетку, якая складаецца пераважна з невялікіх рэчак і ручаёў. Вызначыцца з іх колькасцю складана, бо не існуе дакладна вызначаных крытэрыяў для класіфікацыі. Звычайна бяруць на ўвагу даўжыню вадатока (для ракі больш 10 км) і аб'ём вады, які праходзіць праз рэчышча. Так, на Мядзельшчыне знаходзіцца самая кароткая рака Беларусі Скема (даўжыня – 260 метраў), якая злучае азёры Мястра і Нарач. Не намнога даўжэйшыя за яе Дробня (даўжыня 1,33 км, злучае азёры Баторына і Мястра) і Смолка (3,13 км, злучае азёры Вішнеўскае і Свір).



*Дэльта Скемы- месца ўпадзення ракі ў Нарач* (фота аўтара)

Усе рэкі нашага краю нясуць ваду ў Балтыйскае мора праз вадазборнікі двух магутных беларускіх рэк Нёмана і Заходняй Дзвіны, вадападзел паміж якімі праходзіць па Свянцянскіх градах у паўночнай частцы Мядзельшчыны. На тэрыторыі раёна невялікія ўласныя басейны ўтвараюць рэкі Мядзелка (прыток Бірветы), Заражанка (у ніжнім цячэнні Галбяіца, прыток Дзісны), Лаўрыха (прыток Смычыцы), Аржоўка (прыток Мядзелкі), якія знаходзяцца на поўначы і паўночным захадзе і цякуць на поўнач, несучы свае воды ў Заходнюю Дзвіну.

Значна большыя па плошчы басейны рэк вадазборніка Віліі–Нёмана. У паўднёвым і паўднёва-заходнім накірун-



*Рака Мядзелка каля Маўчаноў*
(фота аўтара)



*Рака Страча каля Альшэва*
(фота аўтара)

ку цякуць: Страча (упадае ў раку Вілія) з прытокамі Тушчанка, Лынтупка, Біёста (Язвінка), Свірыца, Чырвоны Ручай; Вялікі Луперакоп (у верхнім цячэнні Малінаўка, упадае ў возера Свір) з прытокамі Каладзянка, Сырмеж; Вузлянка (упадае ў раку Нарачанка) з прытокамі Красноўка, Добрая, Каханка, Азяродка; Сэрвач (упадае ў раку Вілія) з прытокам Зуйка. У возера Мядзел нясе ваду Зелянуха, у Баторына — Кубля. З возера Нарач выцякае рака Нарачанка. Такім чынам, у раёне можна выдзеліць 14 рачных басейнаў, да якіх адносіцца 26 рэк.

Самай доўгай ракой раёна, паводле звестак навуковага аддзела Нацпарку "Нарачанскі", з'яўляецца Сэрвач — 53,69 кіламетра. Іншыя буйнейшыя рэкі маюць наступныя паказчыкі: Вузлянка — 39,33 км, Страча — 34,29 км, Вялікі Перакоп (з Малінаўкай) — 24,72 км.

Жыўленне рэчак і ручаёў адбываецца за кошт ападкаў, таяння снягоў і лёду, падземных крыніц. Найбольшы

ўзровень вады на рэках назіраецца вясной, звычайна ў сакавіку–красавіку ў час паводкі. Межань бывае зімой, калі рэкі закрытыя лёдам, і летам у пару засухі.



*Рака Страча зімой* (фота аўтара).

Трывалы лёд усталёўваецца звычайна ў пачатку студзеня. Ён ляжыць 90–130 дзён, дасягаючы найбольшай таўшчыні 25–60 см у другой палове лютага — пачатку сакавіка.



*Рака Вялікі Перакоп каля Шэметава* (фота аўтара)

Самая паўнаводная рака раёна — Сэрвач. Яна цячэ ва ўсходняй частцы Мядзельшчыны і з'яўляецца правым прытокам Віліі. Рака мае агульную даўжыню 85 кіламетраў і збірае ваду з 1105 км² плошчы. На Мядзельскі раён прыпадае толькі сярэдняе яе цячэнне. Даліна шырокая, да 1,5–2,5 км, месцамі звужаецца да 0,6–1 км. Пойма двухбаковая, слабаперасечаная, пераважна сухая, пясчаная. Рэчышча моцназвілістае, мае шырыню 15–25 метраў, месцамі пашыраецца да 40 метраў.



*Рака Сэрвач каля Ілава* (фота аўтара)

Значным вадатокам з’яўляецца рака Вялікі Перакоп, якая ў верхнім цячэнні называецца Малінаўка. Яна працягнулася на 32 кіламетры з поўначы на поўдзень ад вёскі Швакшты да возера Свір. Рака мае звілістае рэчышча, часткова каналізавана. Прымае шмат меліярацыйных каналаў.



*Рака Зелянуха* (фота аўтара)

Другое месца па даўжыні займае Вузлянка, левы прыток ракі Нарачанка (басейн Нёмана). Яе агульная даўжыня 53 км, плошча вадазбору 663 км². На Мядзельшчыне знаходзіцца верхняе і сярэдняе цячэнне ракі. Пачынаецца яна каля вёскі Мазалеўшчына і цячэ на паўднёвы захад каля вёсак Няверы, Сваткі, Вузла. Шырыня поплаву 200–300 м, рэчышча — ад 8 да 20 метраў. Ад вытоку да паўночнай ускраіны вёскі Наўры рэчышча каналізаванае. Існуе меркаванне, што з прычыны сваёй моцнай звілістасці яе першапачаткова называлі Вужанкай.



*Рака Нарачанка каля Чарэмшыцаў* (фота аўтара)

Адзінай ракой, па якой вада возера Нарач сплывае ў Балтыйскае мора, з’яўляецца Нарачанка. Выток яе знаходзіцца на паўднёвым беразе нашага “мора”, вусце — каля вёскі Красніца Вілейскага раёна. Пойма двухбаковая, часткова аблесеная, у верхнім і сярэднім цячэнні

забалочаная і мае шырыню 300–600 метраў. Рэчышча звілістае з нізкімі забалочанымі берагамі шырынёй 8–16 метраў. На беразе Нарачанкі ляжыць толькі адна вёска Чарэмшыцы.



*Рака Вузлянка ў Вузле*
(фота аўтара)

Мядзелка, самая вялікая рака вадазборніка Заходняй Дзвіны, бярэ пачатак з возера Мядзел і цячэ на поўнач праз Маўчаны, Маўчанкі, Мікіткі, Манькавічы, Паставы. Вельмі моцна меандрыруе, чым адрозніваецца ад іншых рэчак. За польскім часам была чыстая, актыўна выкарыстоўвалася спартсменамі–байдарачнікамі, цяпер жа рэчышча захламлена дрэвамі ў выніку безкантрольнай дзейнасці баброў.



*Вадаспад на Вузлянцы ў Вузле*
(фота аўтара)

***4. Вадасховішчы.***

У Мядзельскім раёне налічваецца каля дзесяці значных па памерах сажалак і вадасховішчаў. Большыя з іх знаходзяцца каля вёсак Альшэва, Шэметава, Юшкавічы, Качаны, Занарач (Скок), Баяры, Лук’янавічы, Брусы, Рамашкі, Пронькі. Невялікія сажалкі ёсць амаль у кожным паселішчы раёна.

Частка вадасховішчаў утворана шляхам запруджвання ракі або ручая плацінай, але большасць з іх з’яўляецца штучна капанымі.

Прызначэнне гэтых вадаёмаў рознае. Некаторыя з іх выкарыстоўваліся і выкарыстоўваюцца цяпер для развядзення рыбы, для водазабеспячэння, для размяшчэння млыноў, для адпачынку. Некаторыя сажалкавыя сістэмы выконвалі ролю элементаў сядзібна–паркавых ансамбляў.



*Шэметаўскія ставы* (фота аўтара)

На тэрыторыі былой сядзібы Скірмунтаў у Шэметаве размяшчаецца самы вялікі ў раёне комплекс ставоў. У XIX – пачатку XX стст. гаспадары стварылі тут сістэму сажалак для прамысловага развядзення рыбы плошчай каля 190 гектараў, з якіх 80 га было каля сядзібы, 30 га — у лесе, 80 га — каля Вішнева. Гэты комплекс на той час быў самы вялікі ў Беларусі.

**Цікавы факт:** *каля сажалак пастаянна знаходзіліся ўзброеныя стрэльбамі вартаўнікі, у абавязкі якіх уваходзіла не толькі ахова рыбагадавальніка, але і кантроль за батракамі, якія кармілі рыбу. А яшчэ яны павінны былі адстрэльваць драпежных птушак, за што атрымлівалі ўзнагароды.*

Цяпер у гэтай мясцовасці знаходзіцца рыбагадавальнік “Шэметава”, які адносіцца да Нацыянальнага парку “Нарачанскі”. Зараз тут не толькі разводзяць рыбу, але і праводзяць навукова–даследчыя работы, займаюцца акліматызацыяй новых відаў.

Усяго на тэрыторыі рыбагадавальніка размяшчаецца 22 сажалкі рознай велічыні агульнай плошчай 45 гектараў.




Набольшыя з іх адведзены для нагулу рыбы, найменшыя — нерастовыя.

Складаная гідратэхнічная сістэма з дзесяці сажалак існавала ў маёнтку Хамінскіх Альшэва каля Блакітных азёр. Ад вадасховішча, якое знаходзілася на рацэ Страча, вада па жалезных трубах трапляла ў копанкі, праходзіла праз іх і зноў выцякала ў раку. Усе вадаёмы былі звязаны ў адзіны комплекс, які эфектыўна рэгуляваўся. Да сённяшняга дня захаваліся тры сажалкі: Амежа, Сякліца і Ярджмэн.



*Юшкавіцкі стаў* (фота аўтара)

Каля вытокаў ракі Нарачанка ва ўрочышчы Скок у 1937 годзе былі выкапаны сажалкі пад рыбагадавальнік. У савецкія часы гаспадаром тут быў Нарацкі рыбзавод, цяпер — адкрытае акцыянернае таварыства "Скок" (ды-

рэктар — А. Дзенісевіч). Гадуюць тут прамысловую рыбу на продаж (сазан, лінь, шчупак, карп, карась), а таксама разводзяць для зарыблення вадаёмаў сіга і рапушку.



*Стаў у Князігініне* (фота аўтара)

Вялікую папулярнасць у асяроддзі рыбакоў мае вадасховішча ў Юшкавічах. Падобнае на яго, але меншых памераў знаходзіцца каля дзіцячага лагера “Зубраня”.



*Ставок у Альшэве* (фота аўтара)

Прыкладам сажалак, утвораных на месцы здабычы торфу, з’яўляецца водна–балотны комплекс каля вёскі Брусы ва ўрочышчы Калубенішча. Пяць даволі вялікіх, але ўжо моцна зарослых равоў яшчэ захоўваюць сляды былой гаспадарчай дзейнасці.

***5. Балоты.*** Балоты — гэта залішне ўвільготненыя ўчасткі сушы, зарослыя балотнай расліннасцю. На Мядзельшчыне сярод іх пераважаюць нізінныя, якія займаюць вялікія тэрыторыі ў паўднёвай і ўсходняй частках раёна Нарацка–Вілейскай раўніны. Гэтым балотам уласцівы багаты раслінны і жывёльны свет. Асноўнымі прадстаўнікамі вільгацелюбівай флоры з’яўляюцца: хвошч, папараць, тросць, сіта, асака, вольха, крушына, бяроза, елка, лаза і іншыя.

Вярховыя балоты звычайна маюць невялікія памеры